Пасьля сьпісаньня пратаколу маці і сястра былі звольнены, а самога гаспадара з яго братам адаслалі да сьледчага судзьдзі, які таксама сьпісаў пратакол.

Дзеля вышэйпісанага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. міністра: 1) ці маніцца правясьці сьледзтва ў сказанай справе і пакараць урадоўцаў, якія ўчынілі надужыцьце над сям'ёй Аляксандра Манаховіча?

Варшава, 2 сьнежня 1924 г.

# З Сойму.

## Далейшая дыскусія аб бюджэце мінстэрства ўнутраных спраў.

Міністэрства ўнутраных спраў трэбуе дадатковых крэдытаў на 1924 г. аж $32^{1}/_{3}$ мільёны ці амаль ня $^{1}/_{4}$ таго, што атрымала ў галоўным бюджэце. З гэтай сумы 17.782.490 злотых пайшло на новы дар „Крэсам", корпус пагранічнікаў. Трэба і гэтую суму дадаць да таго „бюджэту п. Рымара", аб якім пісала наша газэта ў артыкуле „Санацыя крэсаў".

Далейшую „львіную частку" дадатку праглынула, натуральна, паліцыя. На яе дадаткова — урад трэбуе **12.879.000 злот.—на пэнсіі паліцыянтам на „Крэсах"**.

І аб гэтай суме п. Рымар не казаў нічога, і яе трэба дадаць да яго бюджэту.

Дробныя сумы прадбачаны на санітарную акцыю ў краі.

У дыскусіі **пас. Бэрэзовскі** (эндэк) падтрымлівае канешнасьць увядзеньня выняткова стану на „Крэсах", што зусім не пашкодзіць Польшчы заграніцай, як баіцца палахлівы мін. Тугутт. Заграніца выбачыць усё, абы толькі завясьці „лад і мір"... (нават—эндэцкі!).

**Пас. Прагер** (PPS) кажа, што прычына паўстаньня „крэсавай справы"—бяспраўе, пануючае на „Крэсах" і самаволя адміністрацыі. Аніводнага прадбачанага Канстытуцыяй і вымаганага Соймам уставу: аб правох грамадзян, аб вольнасьці асабістай, аб тайне карэспандэнцыі—урад не падаў. Крэсавае пытаньне — надта цяжкае, бо насяленьне страціла веру да польскай улады. Урад ня мае з кім гаварыць на „Крэсах", ані на каго абаперціся, каб стварыць гэтую першую апору, трэба перад усім правясьці **зямельную рэформу**. Неабходны для гэтай апоры: зямля жыхарам-хлебаробам, школа ў іх роднай мове, вольнасьць іх царквы і адміністрацыя, адданая ў рукі самога насяленьня. Патрэбна **тэрыторыяльная** аўтаномія з краёвымі войскамі.

„Пачасаўшы" трохі й мін. Ратайстага за яго вядомае нам **недарэчнае** „інтэрвью" (размову) аб „незалежнасьці" свайго міністэрства ад віцэ-прэм'ера Тугутта, пасол кажа, што PPS хоча мець веру ў добрую волю новага міністра, і дзеля таго яго партыя ўстрымаецца ад галасаваньня.

**Пас. Казубскі** (украінец) сьцьвярджае, што на „Крэсах" сярод безаружнага, безбароннага насяленьня польскія „крэсоўцы", маючыя, сколькі хоч, усялякага аружжа, прысвоілі сабе роль другое ўлады ў краю. Ня маючы веры да гэткай палітыкі ўраду, украінскі клюб будзе галасаваць проці крэдытаў для гэтага міністэрства.

Прамову пас. Ярэміча (беларуса) мы ўжо далі, паводле стэнаграмы.

**Пас. Кордовскі** (Вызваленьне) кажа, што паліцыя, якая толькі ўводзіць анархію ў краі, ня можа выклікаць даверыя. Чаго варта гэтая паліцыя, яна паказала ў часе нападу на ваяводу ў цягніку. Паліцыя не перастае зьдзекавацца над мяйсцовым насяленьнем і робіць рэчы, нячуваныя нават у сярэднявеччы.

Не жадаючы, аднак жа, „утрудняць" міністру санацыі „Крэсаў", „Вызваленьне" ня будзе галасаваць проці бюджэту (на гэтую „сярэднявечную" паліцыю!!) і... — устрымаецца ад галасаваньня (ўмые, як Пілат, рукі).

## Міністэрства асьветы і рэлігіяў.

Дакладчык **пас. Рымар** (эндэк) кажа, што камісія дадала да таго, што прасіў міністар, яшчэ 668.000 злотых—на дапамогу Варшаўскай опэры і на „шклярню" ў батанічным садзе ў Кракаве.

**Пас. Новіцкі** (Вызваленьне) закідае міністру Міклашэвскаму, што ён выдаў вядомы цыркуляр, каб зачыняць, дзеля эканоміі (!), школы і за тое, што ганяе, як сабак, вучыцялёў з мейсца на мейсца. З аднэй Варшавы пераведзены ў правінцыю больш 200 вучыцялёў. Міністар кажа зачыняць **народныя** школы, але падтрымлівае **сярэднія** школы для багатых. У міністра няма праграмы, дык ён і ня робіць і ня ведае нічога, бо за яго робіць усё яго віцэ-міністар. За гэта клюб прапануе—у знак недаверыя—зьняць з бюджэту 100 злотых.

**Пас. Смоліковскі** (PPS) кажа, што яго клюб адносіўся сьпярша да мін. Міклашэвскага з сымпатыяй за яго прошласьць (?) і асабістыя „zalety" (вельмі цікава,—якія?), але міністар расчараваў ачарованых яго асобай пэпээсаўцаў. Мін. Міклашэвскі ня робіць нічога, каб вывясьці 50 проц. бязграматных у Польшчы, дзе трэба яшчэ выбудаваць 80.000 школьных будынкаў. Міністар асьветы, наадварот, рэдукуе асьвету ў краі.

Аратар закідае міністру і тое, што ён разам з прэм. Грабскім тайна ад Сойму вядуць перагаворы з Рымскім папай аб так-званым „конкордаце", гэта знача—дагаворы з рымскай курыяй аб арганізацыі і правох р.-каталіцкай царквы ў Польшчы. Міністар дагэтуль ня ўвёў у жыцьцё так званых „тугуттаўскіх законаў" аб школе для меншасьцяў. Дзеля ўсяго гэтага PPS з жалем павінны адмовіць даверыя асабіста сымпатычнаму ім талентнаму міністру.

Адмаўляе крэдытаў міністру на знак недаверыя і **п. Выгодзкі** (жыдоўскае кола).

**Пас. Хруцкі** (украінец) сьцьвярджае, што мінуў ужо час, у які Польшча ўрачыста прыракла Лізе Народаў адчыніць украінскі ўнівэрсытэт, але ў бюджэце штось і цяпер яшчэ няма на гэта крэдытаў. Мінуў ужо час і ўвядзеньня ў жыцьцё „Тугуттаўскіх законаў", але і аб іх мы ведаем толькі тое, што на іх плююць урадоўцы п. міністра. Гэта прымушае клюб да выражэньня недаверыя міністру.

**Пас. Утта** (немец) закідае міністру няпрыхільнасьць да справы нямецкай школы і лютаранскае царквы ў Польшчы, якая дагэтуль у Польшчы зусім не ўрэгулявана праўна. Даходзіць гэтае бязладзьдзе да таго, што шлюбы ў кірхах ня лічацца законнымі. І нават быў выпадак, калі магамэтанскі мулла прызнаў няважным — на падставе Карану — шлюб, дадзены ў кірсе.

Пасьля раду дробных бюджэтаў мін. пошт і тэлеграфаў і мін. працы, гарачыя спрэчкі выклікае досьць вялікі дадатак на „міністэрства асадніцтва" (т. зв. „ministerstwo reform rolnych"), на гэтае міністэрства ўрад просіць 3 з паловай мільёнаў злотых — на адшкадаваньне „ануляваных" (?) асаднікаў і зваротныя „dotacje" ў 7 міл. зл. Рольнаму банку, ды 1 міл.— гмінным касам у Кангрэсоўцы (ў Варшаўшчыне). З абурэньнем адкідае гэтыя крэдыты ад імя беларускага клюбу **пас. Тарашкевіч**. Яго прамова дадзена ўжо намі, паводле стэнаграмы.

**Пас. Кавальчук** (пястов.) мае адвагу сказаць, што „ніводны ўрад не ігнараваў так зямельную рэформу, як урад Грабскага".

## Галасаваньне над дадатковым бюджэтам (II чытаньне).

1. Прапазіцыя ўкраінцаў аб скасаваньні 402.560 зл. з бюджэту мін. загр. спраў—адкінута 134 галасамі польскай лявіцы проці 121 галасу эндэкаў і нацыянальных меншасьцяў.

2. Прапазіцыя „Wyzwolenia" аб зьняцьці 100 зл. ваеннага міністэрства адкінута „польскім Соймам проці меншасьцяў і „Вызваленьня".

3. Прапазіцыя укр. Казубскага адкінуць увесь бюдж. мін. ўнутр. спраў адкінута.

4. Бюджэт мін. справядлівасьці прыняты ў лічбах камісіі.

5. Прапазіцыя п. Станьчыка аб зьняцьці 1 зл. з крэдыту мін. прамысл. і гандлю адкінута.

6. Бюджэт мін. земляробства прыняты ў лічбах камісіі.

7. Да бюджэту мін. асьветы і рэлігіяў прынята прапазіцыя зьняць 100 злотых з крэдытаў цэнтральных установаў—145 галасамі польскай лявіцы і нацыянальных меншасьцяў — проці 132 галасоў правіцы і „пяста".

Гэткім чынам, п. Міклашэўскаму было выражана і падчыркнута яўнае недаверые,—бо рэзультаты галасаваньня былі спатканыя гучнымі крыкамі „брава" і воплескамі на ўсей лявіцы, з якой раздаліся галасы: „Дык цяпер сказана **ўжо ясна**: у адстаўку"!..

Цікава адзначыць, што на ўсіх гэтых галасаваньнях дэманстрацыйна былі адсутнымі паслы клюбу „хрысьціянскіх абшарнікаў"—„дубадэкі", якія гневаюцца на ўрад за тое, што ён ігнаруе іх дамаганьні.

---

Гэткім чынам, увесь дадаткавы бюджэт на 1924 г. прыняты.

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### „Вынятковыя паўнамоцтвы" для ўраду.

Урад Грабскага быццам ня мае прасіць у Сойму далейшага працягу вынятковых паўнамоцтваў, якія канчаюцца на Новы Год. Але — замест гэтых паўнамоцтваў—пераважна ў галіне фінансава-эканамічнай, урад будзе дамагацца ад Сойму паўнамоцтваў у галіне „адміністрацыйнай"—дзеля ўпарадкаваньня „stanu bezpieczeństwa" — на „Крэсах"...

Паўнамоцтваў для п. прэм. Грабскага больш ня трэба. Але трэба паўнамоцтваў ужо для п. віцэ-прэм'ера Тугутта...

„Вынятковыя паўнамоцтвы" для ўраду „ў галіне адміністрацыйнай"—гэта-ж і ёсьць „вынятковы стан", якога ўрад, а перад усім в.-пр. Тугутт, так ня хоча...

### Выдача паслоў.

Соймавая камісія пастанавіла запрапанаваць Сойму выдаць суду паслоў: камуніста Ланьцуцкага і украінцаў: Васыньчука Паўла, Сярг. Казіцкага, Чучмая і кс. Ількова.

### Арышт „камсамольцаў".

9.XI ў Варшаве арыштаваны яшчэ 40 „камсамольцаў".

### Польшча і ССРР

„Сегодня" піша, што па трэбаваньню ўраду ССРР польскі ўрад выдаў радавай уладзе нейкую Зайцаву, жонку сэкратара ўкраінскага камітэту, арыштаваную за шпіёнства ў пятлюраўскай украінскай місіі ў Варшаве.

### Шпіёнская арганізацыя.

Польскія газэты паведамляюць, што ў Варшаве паліцыя выкрыла шырока разгалінёную шпіёнскую арганізацыю камуністаў, якая ахоплівала цэлы рад мест па-за Варшавай.

### Сьмяротныя прысуды.

9.XII ў Роўным даразны суд засудзіў на расстрэл бандыта Усьцімчука, забіўшага 2 купцоў-жыдоў.

У Глыбокім таго-ж дня даразны суд засудзіў на расстрэл Цурокава за забойства і аграбленьне Сьвердлова ў часе пераходу яго праз граніцу.

### Напады і арышты.

10.XII ў в. Ходы, Стаўпецк. пав., паліцыя арыштавала 2 узброеных бандытаў, якія прымалі ўчасьце ў адным з нападаў у Наваградзкім ваяводзтве.

У той-жа дзень у в. Любень, Стаўпецк. пав., арыштавана яшчэ адна „асоба пад падазрэньнем у ўчасьці ў апошніх бандыцкіх нападах на Крэсах" (!—колькі такіх „асобаў" у нашай многапакутнай Беларусі!).

9.XII ўначы 3 узброеныя бандыты напалі на вучыцельку народнай школы, якая ехала са станцыі Каміньскай, Лодзкага ваяв. Бандыты двойчы стрэлілі ў вучыцельку і абрабавалі на 40 злотых. Пасьля, загадаўшы ёй стаяць на шляху да раніцы, ўцяклі

Здаецца, такога выпадку на „Крэсах" яшчэ ня было... („Rob.").

### Выбары ў Клюбе „Вызваленьне".

Віцэ-старшынямі Клюбу „Вызваленьне" выбраны, пасьля доўгіх спрэчак, п. п. Путэк, Валерон, Домбскі і Косьцялковскі.

### Угодкі прэм'ерства п. Грабскага.

19.XII скончыцца год, як п. Грабскі зрабіўся прэм'ерам у Польшчы. П. Прэм'ер мае прыняць у гэты дзень журналістаў, якім прадставіць „dorobek" працы ўраду за гэты год.

## Заграніцай.

### Справа „гарантыяў" у Радзе Лігі Народаў.

Газэты пішуць, што ў Рыме ў часе сэсіі Рады Лігі адбываліся в. важныя перагаворы паміж правадырамі эўрапэйскіх дзяржаў — аб стварэньні дагавору аб узаемнай гарантыі паміж 3—4 дзяржавамі, які-б замяніў няўдаўшыся ў Жэневе „пратакол". Быццам Рада Лігі прызнала, што Польшча, Румынія, Чэхаславакія і інш. дзяржавы Эўропы вымагаюць зусім выразных і больш рэальных гарантыяў...

Страх пераможцаў перад Нямеччынай і ССРР расьце...

### Урадавы крызіс у Эстоніі.

У сувязі з камуністычным замахам у Эстоніі, выбухнуў урадовы крызіс. Сучасны габінэт падаўся ў адстаўку, жадаючы стварыць для ўраду шырэйшую парляманцкую базу (апору). Цяпер у Рэвелі адбываюцца паседжаньні прадстаўнікоў усіх клюбаў—пад старшынствам Тэнісона — у справе гэтай урадавай коаліцыі, да якой імкнуцца ўсе партыі.

### Ці саюз проці ССРР?

Эстонскі ўрад афіцыяльна пярэчыць вестцы, пушчанай з Гэльсінгфорсу (Фінляндыя), быццам Эстонія, Літва і Латвія маюць зрабіць Саюз дзеля мілітарнага аб'яднаньня проці небясьпекі з боку С. С. Р. Р.

### Прамова Каменева і Рыкава.

Каменев заявіў у праграмнай прамове, што ўрад ССРР будзе і далей вясьці палітыку міру, не паддаючыся ніякай правакацыі і не адхіляючыся ад галоўнага шляху ў той ці іншы блудны тупік, які падсоўваюць яму яго ворагі... ССРР будзе спакойна і ўверана разьвіваць свае сілы, ведаючы, што ніхто на яго замахнуцца не пасьмее.

На сходзе студэнтаў закаўкаскага землячаства старшыня рады нар. каміс., Рыков, заявіў у сваей прамове, паміж іншым, што ўвесь сьвет бачыць і прызнае заслугі радавай улады ў дзеле вызваленьня паняволеных народаў Усходу. Палітыка Радаў здабыла сабе найшырэйшыя сымпатыі сотняў мільёнаў гэтых паняволеных народаў, і гэтыя сымпатыі з кожным месяцам растуць... Але, разам з тым, растуць і гнеў і антыпатыі гэтых народаў да імпэрыялістаў, расьце і нездаваленьне ўрадаў імпэрыялістычных дзяржаў радавай уладай.

Як піша „Сегодня", Каменев у сваей прамове востра крытыкаваў новы англійскі габінэт, закідаючы кансэрватарам фальшы і бесчалавечнасьць...

Англійская буржуазія, казаў ён, баючыся новага чыну радавай дзяржавы, робіць усе высілкі, каб задушыць усялякую самастойнасьць усходніх гаспадарстваў, блізкіх да ССРР. Але гэткая палітыка кансэрватараў толькі ўзмоцніць глыбокае спачуцьцё да радавай улады і да комінтэрну з боку ўсіх народаў, якія бачаць у маскоўскіх бальшавікох адзіных правадыроў свайго адраджэньня.

### Падача пасольскіх грамат.

12/XII Пасол ССРР Красін аддаў на ўрачыстай аўдыэнцыі (прыеме) прэзыдэнту Франц. Рэспублікі свае пасольскія паўнамоцтвы. Пры гэтым радавы пасол сказаў прамову, у якой заявіў, што яго мэтай будзе ўзмацненьне шчырапрыязных адносінаў паміж народамі Расеі і Францыі. Прэзыдэнт Думэрг адказаў прамовай, у якой перад усім

